№4 (30)

# Беларуская маладзёжная

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.




Малюнак В. ДУБОВІКА

*Галіна ЖАРКО:*

## Шукаю спонсара на ўласнае пахаванне

( стар. 3 )

## Всебелорусский клуб избирателей работает для вас!

( стр. 2 )

## TV программа на неделю

( стр. 4 )

## Пра РОК

( стар. 7 )

## Жыццё ў стылі "БМ"

( стар. 8 )

*Вядзьмак Ігуменьскі:*

## Сказ пра Ігумень

( стар. 5 )



## "Мы ўжо даўно не "афганцы"...

Каму патрэбна "усебаковая падтрымка" былых воінаў-інтэрнацыялістаў

( стар. 2 )

## Першакласны сцёб

(суб'ектыўны рэпартаж пра сустрэчу Андрэя Козырава з творчай інтэлігенцыяй Беларусі)

( стар. 2 )

# Зноў пагражае Беларусі жыць у Расіі ў прымаках!

# А от выборов не спрятаться, не скрыться...

**Как выбрать достойных в новый Верховный Совет? Как научиться ориентироваться в разноголосом хоре предвыборных обещаний? (Вспомните, как сладко и голосисто поют претенденты на все лады, какие золотые горы обещают...) Как отличить подлинных демократов от демагогов? Ведь столько теперь партий и движений... Конечно, выбирать будет нелегко. И прежде всего надо определиться. Ведь уже создано три предвыборных блока. Один -- коммунистической направленности и два -- демократической, более десятка партий и движений объединились.**

В ноябре минувшего года зарегистрирован Всебелорусский клуб избирателей -- "добровольная общественная организация граждан, объединившихся с целью развития их общественной активности, способствования участию граждан в управлении делами общества и государства". Всебелорусский клуб избирателей основывает свою деятельность на принципах "Всеобщей декларации прав человека" и исходит из того, что права человека должны быть поставлены выше интересов государства, наций и классов.

Дать людям возможность реализовать свои политические устремления, помочь разобраться в политических реалиях сегодняшнего дня, способствовать становлению демократии, без которой невозможен нормальный жизненный уклад -- вот на что в первую очередь направлена деятельность Всебелорусского клуба избирателей.

Еще в предвыборную президентскую кампанию было создано несколько неформальных, незарегистрированных клубов, по-разному они назывались (в Витебске, Лоеве, Речице, Житковичах и других городах). Практика показала, что люди приходят в такие клубы, причем, более активно, если клуб не является достоянием какой-то одной партии, неважно какой -- БСДГ, БНФ или ОДПБ. К партиям в районах, в глубинке отношение довольно осторожное. Да и зарегистрировать в районе общественную организацию, клуб довольно сложно: опыта маловато, устав надо разрабатывать, да и сумму за регистрацию приличную заплатить. Решили разработать единый устав и образовать Всебелорусский клуб избирателей. Сейчас в районах зарегистрировано 22 клуба, документы десяти -- на регистрации, и еще десяток вот-вот оформится.

"Одна из основных задач таких клубов на местах -- помочь людям определиться в выборе, -- считает председатель ВКИ Владимир Будеев. По оценкам социологов, около 60% избирателей не определились, за кого они будут голосовать. Вот им-то мы и должны помочь. Мы должны внушить еще не определившимся избирателям, что им стоит доверять не отдельным лицам, которые что-то заманчиво обещают, а движениям, партиям, блоку. Верховный Совет будет только тогда дееспособным, когда там будут не просто отдельные мнения представлены, а когда депутат будет проводить идеи своей партии, фракции, блока -- ведь он будет подотчетен этим общественным формированиям, будет обязан свои обещания выполнить".

**ВСЕБЕЛОРУССКИЙ КЛУБ ИЗБИРАТЕЛЕЙ**

Приглашает к совместной работе, тесному сотрудничеству или к взаимодействию всех граждан Республики Беларусь, кому небезразлична их судьба и судьба будущих поколений.

**ВЫБЕРЕМ В ВЕРХОВНЫЙ И МЕСТНЫЕ СОВЕТЫ САМЫХ ДОСТОЙНЫХ!**

***Контактные телефоны членов Совета и учредителей ВКИ:***

Минск 45-28-11, 64-28-36
Вилейка 5-38-83 Клецк 5-38-07
Дзержинск 5-63-41 Лида 2-55-53
Гомель 54-60-05 Витебск 1-26-15
Бобруйск 4-17-52 Могилев 23-82-42
Пинск 4-07-03 Мозырь 3-04-94
Лоев 2-03-17 Жлобин 9-14-26
Орша 2-44-25 Слуцк 2-04-56
Новополоцк 2-35-54 Чериков 2-43-31
Борисов 3-02-02 Барановичи 5-68-24
Жабинка 2-34-10 Слоним 2-38-91

# ПЕРШАКЛАСНЫ СЦЁБ!

Такое азначэнне найбольш выразнае для характарыстыкі сустрэчы міністра замежных спраў Расіі Андрэя Козырава з творчай інтэлігенцыяй РБ. І не толькі таму, што залу, як звычайна, уразіў Анатоль Сыс -- на гэты раз "легенда Дома літаратара" вылезла на трыбуну, каб пачаставаць госця беларускай мовай і беларускай паэзіяй. Паэт прачытаў вершык пра дзікі мёд, расейскага мядзведзя і кулямёт на яго. Пасля чаго зышоў -- відавочна, за кулямётам. Зала ўзарвалася апладысментамі, міністр жа, як чалавек выхаваны, заўважыў, што гэта -- менавіта той выпадак, калі востра адчуваецца адрозненне моў, і што, нажаль, без перакладу ён верша не зразумеў.

"Сур'ёзныя" пісьменнікі таксама паводзілі сябе цікава, задаючы Андрэю Козыраву пытанні кшталту "Каго б з расейскіх пісьменнікаў ён ім параіў пачытаць?", адначасова дакараючы Расію за тое, што за апошні год скараціўся наклад "Нового мира".

Сустрэча найяскравейша прадэманстравала варожасць старон адна да адной. Калі пачаў міністр даволі прыстойна, прайшоўшыся па ўсіх аспектах расійска-беларускіх адносін, дык першае ж пытанне адносна становішча ў Чачні яго "апракінула" беззваротна. На дапамогу ён паклікаў аднаго з дзярждумцаў, якіх прывёз з сабой, і той прымусіў залу бурна выказаць абурэнне сказанай "між іншым" фразай: "Сейчас на границе Грузии и Абхазии стоят русские парни и негодуют, почему же нет рядом братьев-белорусов".

Спачатку А.Козыраў спрабаваў зусім пазбегнуць адказаў на вострыя пытанні, але потым усё ж быў вымушаны даць аналіз падзей у Чачні, робячы ўпор на тое, што не забараняецца адстойваць яе суверэнітэт, але не шляхам зброі і генацыда. Таксама ён паведаміў, што Дзярждума і Савет Федэрацый пагадзіліся з амністыяй прадстаўнікам чачэнскага боку, калі тыя складуць зброю, прычым, назваў гэта дэмакратыяй без меж.

Але тое, што міністр працягвае разглядаць Беларусь як непадзельную спадарожніцу Расіі на ўсе часы, адчувалася амаль у кожнай яго думцы. Таму ў нейкі момант становішча спрацавала супраць яго, і на Козырава абрушыўся шквал дакораў, перасцярог і пагроз у бок Расіі, у тым ліку -- і не на апошнім месцы -- з нагоды паслядоўнага і непрыхаванага зневажання суверэнітэта, мовы і кіраўніцтва рэспублікі па расійскім тэлебачанні, якое па сутнасці, манапалізуе інфармацыйную прастору. Асабліва напружаным стаў міністр, калі "творчая інтэлігенцыя" стала адзін за адным нервова тлумачыць яму, што не трэба падкрэсліваць агульныя карані абедзвюх краін як асуджанасць быць разам, бо аналагічныя карані маюцца ў Беларусі і з Літвой, і з Польшчай.

Узгадаўшы нядаўнія падзеі падчас прыезду ў Мінск пісьменніка Лімонава, вар'яцкі сустрэтага тут, у міністра запыталіся, чаму чалавеку з падобнымі ідэямі, С.Гайдукевічу, Масква дае права выступіць на трыбуне Дзярждумы? Паставілі пытанне і аб тым, чаму ні разу расійскі ўрад не выказаў асуджэнне шавіністыч-ных выступленняў адносна РБ некаторых расійскіх партый і рухаў. Козыраў жа жорстка заўважыў, што забарона дзейнасці каго б ні было, адмаўленне ў візах -- першы крок да аўтарытарызму. Маўляў, "вопыт забаронаў за 70 з лішнім год у нас ёсць ва ўсіх, а толку?"

"Цяжкай артылерыяй" з'явілася выступленне Н.Гілевіча-грамавержца з нагоды асноўнага пытання -- сумеснага пасяджэння парламентаў Расіі і Беларусі, якое плануецца ў сакавіку. Ен назваў гэта беспрэцэдэнтным актам парушэння суверэнітэту нашай краіны.

***Ціна КЛЫКОЎСКАЯ, для "БМ"***

# Наших бьют?!

Проживание на территории РБ иностранных граждан по-прежнему остается фактором, осложняющим криминогенную обстановку. Ими за 1994 год совершено 1473 преступления и 48173 административных правонарушения. Лидируют граждане России и Украины -- из 28 умышленных убийств на их долю соответственно приходится 13 и 8. Тяжелых телесных повреждений в общей сложности совершено 15, краж государственного и общественного имущества -- 190, личного имущества -- 431, грабежей -- 82, из которых 28 совершено гражданами России, 17 -- Украины. В 68-ми случаях место имел разбой -- 26 преступлений со стороны россиян, 11 -- украинцев, отличились здесь и вьетнамцы. Изнасилований и попыток к изнасилованию произведено 18, 42 случая мошенничества, 599 -- прочих преступлений. Что касается административных правонарушений, всего их 48173, и снова лидируют Россия -- 519 и Украина -- 297, у других же национальностей соотношение такое: 4 правонарушения совершены афганцами, 4 -- вьетнамцами, 4 -- немцами, одно -- монголом, 23 -- сирийцами, 9 -- турками, 5 -- поляками.

Совершались преступления и в отношении иностранных граждан. Их всего 1082 за прошедший год. Убито было 29 украинцев, 14 азербайджанцев, 9 армян, 4 киргиза, 5 россиян, 2 болгарина, один вьетнамец и один поляк. Нанесено 18 тяжелых телесных повреждений, совершено 556 краж, 121 случай грабежа и 69 -- разбоя, 24 случая мошенничества, 228 -- прочих преступлений. Факты изнасилования (их 7) совершаются исключительно в отношении лиц европейской принадлежности. Административных правонарушений в отношении иностранных граждан совершено 3236.

***Виктория ПОПОВА***

# "МЫ ЎЖО ДАЎНО НЕ "АФГАНЦЫ"...



**НЕВЯЛІЧКІ матэрыял на старонках газеты "Рэспубліка" не мог не прымусіць задумацца. Размова ідзе аб звароце да грамадства ветэранаў вайны ў Афганістане, сутнасць якога -- прадэклараваць сваю ўсебаковую падтрымку прэзідэнта.**

"...против того, чтобы политические замыслы партий, движений и личностей были направлены на дестабилизацию обстановки в РБ через противопоставление органов власти народу" выступаюць "афганцы". Пакінем абсурднасць фармуліроўкі, хаця кожнаму, хто мае нешта ў галаве, зразумела: ніхто так не супрацьпаставіць уладу народу, як яна сама /у тым ліку і паслядоўнымі крокамі да яго жабрацтва, і збіваннем прафесараў на вуліцах, і вымушанымі адстаўкамі не самых дрэнных прадстаўнікоў гэтай улады/. Але справа ў іншым.

І зноў -- "афганцы". Не трэба абвінавачваць аўтара ў дрэнным стаўленні да іх. Адмаўляючы спекуляцыю гэтымі людзьмі, заўсёды буду падтрымліваць іх у жаданні зрабіць, нарэшце, помнік сваім загінуўшым ці выступіць супраць спроб перафарбаваць іх мінулае. Але чаму зноў у чарговым канфлікце ў грамадстве яны выкарыстаны як казырная карта? Чаму ім зноў належыць кагосьці падтрымліваць, камусьці служыць?

Пад заклікам стаяць подпісы лідэраў шэрагу "афганскіх" арганізацый -- Беларускага Саюза ветэранаў вайны ў Афганістане, Беларускага Аб'яднання ветэранаў вайны ў Афганістане, Асацыяцыі медработнікаў-"афганцаў", Фонду бацькоў загінуўшых і г.д. Я не збіраюся прыводзіць іхнія тлумачэнні, бо сваю пазіцыю, яны ўжо выказалі на старонках "Рэспублікі". Я звярнулася з роспытам да сваіх сяброў і знаёмых -- хлопцаў, старэйшых за мяне на 5-6 год, прайшоўшых Афган, якія зараз не імкнуцца актыўна ўдзельнічаць у рабоце сваіх грамадскіх арганізацый, лічачы, што ніякіх сацыяльных гарантый гэта ўсё роўна не дасць. Праўда, звязацца прыйшлося з Гомелем, Бабруйскам, Пінскам. Балюча ўразіла: усе шасцёра мае суразмоўцы паспадзяваліся, што хаця б з-за вернасці сяброўству я ніякім чынам не назаву іхнія імёны. Што гэта? Людзі, якія хадзілі пад кулямі і вярнуліся людзьмі, якія навучыліся не баяцца за сябе, не могуць адкрыта выказаць сваю думку, тым больш калі за іх у прэсе сказалі тое, з чым яны, мякка кажучы, не вельмі згодныя? Але чаму так? Чаго яны баяцца? Адзін з іх сказаў: "Не ўсе "афганцы" думаюць так, як я, а падкрэсліваць свае разыходжанні з імі ў нечым мне непрыемна".

Але справа, мне здаецца, не толькі ў гэтым.

Людзі хочуць спакою. І яны маюць на гэта права.

Становішча палохае. Насцярожвае. Яшчэ няма, па вялікаму рахунку, ліхаманкавай канфрантацыі, а "афганцы" ўжо выступілі на адным з бакоў. Выкарыстоўваць іх выгадней, чым каго іншага. Бо яны крывёй заслужылі права на давер.

*"Мы ўжо даўно не "афганцы". Большасць з нас. Так, шмат у каго свядомасць замкнулася на тых падзеях, яны проста няшчасныя людзі, так і не змаглі пачаць нармальнае жыццё. Ведаеш, гадоў дзесяць таму я быў гатовы ў краме глотку перагрызці, калі хлопцу з пасведчаннем чаго-небудзь не давалі без чаргі. А зараз мы ўсе такія. Хто палічыць усіх "абхазцаў", "асецінцаў", "карабахцаў"? Які... прэзідэнт ім што-небудзь дасць? Ты ж паглядзі -- сустракаюцца хлопцы пасля арміі, дык размова не аб тым, хто дзе служыў, а -- хто дзе ваяваў. А яшчэ -- для каго сакрэт, што шмат хто з "афганцаў" не можа ўжо проста не ваяваць? Яны пайшлі, ці то наёмнікамі, ці то добраахвотнікамі, ці то з адчаю, ваяваць па ўсіх канфліктах, і нічога, апрача гэтага, ужо не жадаюць".*

*"Для прэзідэнта ў мяне можа быць толькі адно -- "F-2". Ведаеш, што гэта? Не ведаеш -- і добра. Але не пашкадаваў бы і для яго, і для ўсіх астатніх, хто ці мае ўладу, ці да яе рвецца".*

Я знарок не "прыглажвала" адказаў. Няхай. Але астатнія мае суразмоўцы былі больш разважлівымі.

*"Я гляджу на ўсё гэта не з пазіцыі былога "афганца", а з пазіцыі прадпрымальніка. Пакуль што бачу адно -- вар'ят губіць краіну. Невук з дня ў дзень робіць усё, каб паралізаваць эканоміку. Ну, няхай ён расплюшчыць вочы, падумае сваёй башкой, што адзін дзяржаўны сектар эканоміку не выцягне, і тое, што ён б'е і б'е па малому і сярэдняму бізнесу, перакрывае людзям подых, вядзе да адчаю -- да таго, што яны пачнуць везці тавар кантрабандай, браць для "пад'ёму" грошы з Расіі і ў яе ж бюджэт потым плаціць падаткі, а не -- дык з сумой пойдуць, у беспрацоўныя".*

*"Адно прэзідэнт добра робіць -- двухмоўе. Рускамоўным перастала быць сорамна за тое, што не жадаюць перайначваць сябе. Але тут жа і іншая крайнасць -- забараняюць БЗВ, "Свабоду". Я іх не прыхільнік, але навошта шукаць новых "хлопчыкаў для біцця" і правакаваць напружанасць?"*

*"У мяне адукацыі ніякай, апрача школы, асабліва разумным сябе не лічу, таму адно скажу: думаць трэба было, калі за дырэктара саўгаса галасавалі. Паглядзелі б, хто вакол яго. Тыя ж апаратчыкі, якія за яго, як за шыльду, схаваліся. І на што клюнулі -- на тое, што з мафіяй будзе змагацца?"*

*"На выбарах галасаваў за Лукашэнку. Зараз супраць яго асабліва нічога сказаць не магу, тым больш што за палітычнымі падзеямі не вельмі і сачу. Мая палітыка -- праца, сям'я. Але калі пачынаюць гаварыць ад імя "афганцаў", я памятаю, што я там быў. Але не трэба зноў кідаць нас наперад. За краіну сваю заўсёды стану, але не за "давер прэзідэнтам".*

...Галасы гэтых хлопцаў нават не застануцца на дыктафоне, бо працую амаль заўсёды без яго. І далёка не ўсе іх пачуюць. Дакладней, захочуць пачуць. А варта было б. Бо ў іх больш дакладная мера для слоў і ўчынкаў. Нягледзячы на тое, што ў гэтай краіне яны чамусьці не рызыкуюць называць свае імёны.

*Ціна КЛЫКОЎСКАЯ, для "БМ"*

# "Бацька" -- на воз, "кобыле" -- не легче!

**Вы заметили: с наших улиц исчезли воробьи! Голуби на голову "железному Феликсу", что напротив КГБ стоит, гадить перестали. И все это не от хорошей жизни: просто им клевать, как говорится, нечего.**

Помнится, в 70-х хунвейбины воробьев по Китаю гоняли, чтобы риса в стране побольше оставалось. А мы над ними смеялись.

Теперь бывшие хунвейбины над белорусами посмеиваются: у нас --ни риса, ни воробьев, ни реформ! А у них со всеми этими делами абсолютный порядок наблюдается.

Решил наш "бацька" навестить Китай, на людей посмотреть да себя показать (эх, поучиться бы ему у них еще!). Взгромоздился на воз (то бишь реактивный самолет) и отбыл за Гоби да Хинган. А цены в руководимой им республике, временно осиротевшей, возьми да опять подпрыгни!

Теперь что ни яйцо -- то тысячи в кармане как ни бывало! Кило кильки -- десять "штук". Молоко (которое почему-то с перебоями в магазинах) тоже пенсионеру не по карману!

Булка черствого хлебушка = одно яйцо. Одна "брежневская" копеечка = сто двадцать пять "лукашенковских" рубликов (это я по талончику на троллейбус высчитал: раньше он четыре копейки стоил, а нынче -- пятьсот "зайчиков").

Бутылка "Столичной" на минималку тянет: 16620 почему-то рублей я за нее намедни уплатил. И не в кафе, а в самом обычном гастрономе на Берута.

Скажете, неча водку пьянствовать. И правильно скажете. Только и газировкой не очень-то жажду утолишь: 1 бутылка такой "Столичной" = всего семи бутылкам "Фанты" или килограмму мяса на закуску.

При этом заметь, читатель, что все это вздорожание продуктовое происходит с параллельным ухудшением качества товаров: почти шеститысячные пельмени "из пачки", в отличие от их пятидесятикопеечных "предков", просто есть не хочется -- изжога от них одна и тошнит вдобавок от этого "блюда".

Китайцы -- те, говорят, и червей едят. Не заставит ли нас горячо любимый народом президент по весне то же самое делать? Или наоборот -- стариков, от голода до зеленых листочков не дотянувших, самих им на съедение отдаст?..

Хватит, Александр Григорьевич, по заграницам ездить! Пора делами домашними как след заняться! А то ведь не перезимуем, "бацька"!

На тракторном, говорят, уже буржуйки в цехах стоят. Пора бы и мне о своем доме позаботиться, а Вам, господин президент (простите, что с маленькой буквы), -- о своем, который Беларусью зовется!

**Н.КОПЧЕНОВ, "БМ"**

● Политэкономия постсоциализма

# Жывем, як бульба: за зіму не з'ядуць -- увесну пасадзяць

Падазрэнні на тое, што наша сям'я можа не перажыць гэтую зіму, з'явіліся ў мяне яшчэ ўвосень. Зусім нядаўна я атрымала пісьмовае пацвярджэнне гэтаму ў выглядзе дзвюх даведак. Даведкі сапраўдныя. Пячаткі і подпісы сведчаць: "загадана памерці". Тое, што загад гэты аддадзены моваю лічбаў, нічога не мяняе. Гэты "шыфр" мы рассакрэцілі страўнікамі, розум тут не спатрэбіўся. Галаву можна паламаць над іншым: як нам удаецца так доўга загад "памерці" не выконваць. Тэарэтычна гэтую задачу я рашыць не магу. Прапаную яе вам.

Дык вось, даведкі з месцаў працы маёй і мужа спатрэбіліся, бо прайшла пагалоска, што прэзыдэнт раздае дапамогу малазабяспечаным. Зараз мне проста сорамна, што я таксама палічыла нашую сям'ю малазабяспечанай і сабралася было скарыстацца з гэтае абяцанкі. Нас чацвёра. Дзецям 11 і 2 гады. Муж -- выкладчык універсітэта (кандыдат навук, між іншым), я зараз сяджу з дзіцем.

Дык вось з даведак:

# Шукаю спонсара на ўласнае пахаванне,

*або Загадана памерці*

Заработак за III кв. 1994 г.:
даведка мужа -- 272 тыс.;
даведка мая -- 96 тыс.

Разам -- 368 тыс.руб. За квартал на кожнага (чацвёра нас!) -- 62 тыс. Вынік: мінулым летам мы мелі на кожнага па 20 тысяч у месяц.

Прэзідэнцкая дапамога была прапанавана тым, у каго не выходзіла па 55 тысяч на чалавека. Такі даход мне ўяўляецца ўжо пэўным дастаткам, з чаго я зрабіла выснову, што мы ніякія не малазабяспечаныя, а проста жабракі.

Пра дапамогу жабракам размова не вялася, дык нічога дзіўнага, што я яе і не атрымала. У Першамайскі выканком я звярнулася 16 студзеня. Там сказалі, што ўжо позна, усе грошы раздалі. Але я разумею, што справа не ў гэтым. Проста эксперымент "колькі яны яшчэ працягнуць" ускладнілі: становішча пагоршылі і падвопытным паведамілі, чаго ад іх чакаюць -- пагібелі.

Справа ў тым, што нават летась (гл.разлікі) нам не прыходзілася вырашаць праблемы, якія мусім вырашаць зараз, у канцы студзеня 95-га.

Праблема 1. Куды ўкласці грошы? У праязны мужу, каб ён мог дабрацца да работы або заплаціць за кватэру? Разлік такі:

250 тыс. -- гэта ўсё, што атрымаў муж у студзені,

39 тыс. -- тое, што атрымала на дзяцей я.

289 тыс. на ўсіх, 72 тыс. на кожнага, падзяліце на 30 дзён: 2 тысячы ў дзень на 1 чалавека нашае сям'і. Астатнія праблемы пры такім разліку і ўзгадваць няма сэнсу.

Такім чынам, спачатку трэба знайсці спонсара на ўласнае пахаванне, а потым пачынаць збіраць грошы на праязны (метро + аўтобус -- 45 тыс., гэта значыць, 24 дні не есці).

Даведкі прыкладаюцца. (У рэдакцыі. -- Рэд.)

**Г. ЖАРКО**

**P.S.** *Я забылася паведаміць, што мой муж выкладае ва універсітэце беларускую літаратуру. Дык, можа, цяперашні ўрад такім чынам вырашае праблему двухмоўя? Няма чалавека -- няма праблемы. Хаця што яны маюць супраць матэматыкаў, фізікаў?..*

# Добрая справа ў надзейных руках?

**Калі год таму старшыня антыкарупцыйнай камісіі дэпутат Лукашэнка выступаў на сесіі Вярхоўнага Савета са сваім знакамітым дакладам "Аб карупцыі ў вышэйшых эшалонах улады", мы ўключалі на поўную моц свае радыёпрыёмнікі, імкнуліся не прапусціць ніводнага слова з палымянага выступу прамоўцы. Народ спадзяваўся, што калі ўжо пра гэта загаварылі з высокіх трыбун, то... Няхай мы не станем жыць лепш, але ж і яны не будуць красці!**

Прайшоў час, галоўны змагар з мафіяй стаў прэзідэнтам, а пачатую ім справу працягваюць яго былыя паплечнікі.

Праўда, даклад Сяргея Антончыка мы не пачулі па радыё, не кожны змог прачытаць і ў тых некалькіх газетах, якія яго надрукавалі. А таму спадар Антончык атрымаўшы шматлікія запрашэнні, сам панёс свой даклад "у народ".

Халодным зімовым вечарам 20 студзеня людзі ішлі ў сталічны кінатэатр "Кіеў", каб даведацца, чаго ж так спалохаўся прэзідэнт, наш галоўны барацьбіт з карупцыяй. Пры поўнай зале спадар Антончык прывёў некаторыя факты са свайго даклада аб карупцыі і асноўных карупцыянерах у камандзе прэзідэнта. Сказаў пры гэтым, што не абвінавачвае тых, хто браў хабар (не пракурор!), але як дэпутат і чалавек мучыцца пытаннямі: ці маюць яны маральнае права кіраваць дзяржавай? Чаму прэзідэнт аб'явіў "амністыю" казнакрадам паля залічэння іх у сваю каманду?"

Былі таксама прыведзены новыя факты, якія Антончык атрымаў нядаўна і збіраецца ўключыць у другую частку дакладу, якую, відавочна, яму не дазволяць прачытаць на сесіі Вярхоўнага Савета. Пакуль што дэпутат выступае з гэтымі фактамі ў раздзеле "Рознае" (таму, на думку Антончыка, цяпер гэты раздзел і не ідзе ў прамы эфір). Але "прамы эфір" на сустрэчах з людзьмі атрымліваецца па поўнай праграме. Людзі прыходзяць не проста пачуць -- падумаць, абмеркаваць, зрабіць вывады.

Васіль ПЯТРОВІЧ, пенсіянер:

-- Лукашэнка пасля дакладу Антончыка сказаў, што ён ведаў аб усіх гэтых фактах. Тады, відаць, яму выгадна трымаць каля сябе такіх людзей? Яны заўсёды будуць у ягоных руках, яны марыянеткі, а іх цёмныя справы -- тыя нітачкі, за якія прэзідэнт у любы час можа патузаць. Яму гэта, можа, і зручна. Але ж ці падумаў ён, як будзе выглядаць у вачах выбаршчыкаў, набіраючы сабе такую каманду? Няўжо ў нас не засталося разумных і сумленных людзей?

С.М., рабочая:

-- Ведаеце, мяне больш за ўсё абурыла тое, што мне не далі магчымасці азнаёміцца з гэтым дакладам праз радыё ці газеты. Чаму, як галасаваць, дык мяне лічаць свядомым чалавекам, а потым ужо самі вырашаюць, што мне можна ведаць, а што не? Не такія ўжо мы і цёмныя. І без гэтага даклада бачым, што, калі нешта ў краіне і змяняецца, то толькі ў горшы бок.

Аляксандр ПІЛАТ, студэнт:

-- Слухаючы выступленне Антончыка, я падумаў вось пра што. На сесіі Вярхоўнага Савета, прапаноўваючы названых сёння людзей на высокія дзяржаўныя пасады, прэзідэнт характарызаваў іх як крыштальна чыстых і сумленных, ведаючы, аднак, пра іх "грашкі". Значыць, мякка скажам, той самы М.Чыгір, каб "не падставіць" прэзідэнта, не сказаў сумленна: "вось, былі такія парушэнні закона, быў прыцягнуты да адказнасці па такім артыкуле закона, атрымаў такое пакаранне..." Аднак ён не зрабіў гэтага. Як вядома, шлях да ачышчэння ідзе праз пакаянне, а хто падмануў аднойчы, той падмане і ў другі раз. А ў народзе гэта называецца проста: рука руку мые.

Т.К., беспрацоўная:

-- Шчыра кажучы, усё сказанае сёння Антончыкам мяне не здзівіла. Лукашэнка стаў прэзідэнтам, не маючы сваёй каманды. А калі пачаў яе фарміраваць, то падбіраў людзей не адданых справе, а ў першую чаргу адданых яму асабіста. Для гэтага ён абраў свой крытэрый адбору, і таму мы бачым, што атрымалася, а з некаторымі з сёння названых людзей у яго, напэўна, і не было іншага выйсця, як узяць у сваю каманду. Відаць, таму ён і заплакаў ад свайго бяссілля. А асобныя члены яго каманды, названыя ў дакладзе, смела кінуліся заяўляць аб сваёй адстаўцы, упэўненыя, што Лукашэнка іх не здасць. Вось і атрымалася, што людзі, якія дапамагалі раскручваць інфляцыю, сёння ва ўрадзе. Каб жа яны хоць цяпер яе трохі спынілі, але ж ці не ведаюць, як гэта зрабіць, ці не хочуць. Прэзідэнт дык сам сумленна прызнаўся, што не ведае, адкуль бярэцца інфляцыя. Ен нават да нядаўняга часу не ведаў, што ў нас такое вялікае войска. Так і жывем. Скардзіцца няма на каго, самі выбіраем.

Дык чаму ж усё ж даклад Лукашэнкі адразу пайшоў у эфір, а даклад Антончыка быў забаронены? Цяпер вядома, што ўсе тыя факты, аб якіх у свой час гаварыў на сесіі Лукашэнка, пабывалі на стале ў Кебіча, і ўжо той вырашаў, аб чым можна сказаць, а што "пакласці ў стол". Тады пры дапамозе сённяшняга прэзідэнта і быў выяўлены самы галоўны "карупцыянер" у дзяржаве -- Шушкевіч. Памятаеце, як эмацыянальна, з якім абурэннем казаў тады Лукашэнка, колькі дзяржаўных цвікоў забіта ў сцены шушкевічава лецішча? (Дарэчы, са справы аб "цвіках Шушкевіча" зроблены пэўныя высновы, і цяпер у сцяну, якая ўзведзена вакол дома жонкі прэзідэнта, не забіра ніводнага цвіка).

Відаць, антыкарупцыйная камісія спакойна існавала б, не выходзячы ў сваіх "выкрываннях" за межы, адведзеныя ўладамі, калі б Лукашэнка не стаў кандыдатам у прэзідэнты і не вырашыў выкарыстаць сабраны камісіяй кампрамат толькі на сваю карысць. Ен, што называецца, пайшоў ва-банк. Вось тады камісію распусцілі, а кабінет яе стыршыні апячаталі. (І, калі памятаеце, Лукашэнка прарываўся ў яго амаль што з боем.) У той час кандыдат у прэзідэнты заявіў, што дакументы з сейфа зніклі. Так гэта ці не -- аб гэтым можна толькі гадаць. Сёння Антончык кажа, што, калі ён у той час убачыў, якая гульня вядзецца вакол гэтай самай барацьбы з карупцыяй і як бясследна знікаюць дакументы, якія ён перадаваў Лукашэнку, то зрабіў для сябе неабходныя высновы. І таму цяпер мае гэтыя матэрыялы.

Антончык свой даклад з уладамі не ўзгадняў, у хованкі не гуляў, а вырашыў сказаць прэзідэнту праўду-матку прынародна.

Антончык сцвярджае, што зараз вядзецца спешная работа на па падмене тых дакументаў, на якія ён спасылаўся ў сваім дакладзе. Можа, гэта і так, але наш народ, навучаны шматгадовым вопытам, добра ведае, што, калі ад яго што-небудзь старанна хаваюць, значыць, хаваюць праўду.

Антончык прапануе склікаць у Мінску 16-18 лютага агульнанацыянальны сход з удзелам рабочых, служачых, прамыслоўцаў, бізнесменаў, навукоўцаў, сялян, творчай інтэлігенцыі, журналістаў. Мэта сходу -- кансалідаваць грамадскасць і знайсці шляхі выхаду з крызісу. Калі прэзідэнт сапраўды хоча праводзіць рэформы, але не ведае як, абавязак кожнага -- дапамагчы яму. Калі ў прэзідэнта і яго каманды няма жадання да канструктыўнага супрацоўніцтва і правядзення рэформаў -- прыняць, згодна з Канстытуцыяй, рашэнне аб правядзенні рэферэндуму аб даверы прэзідэнту.

**Сяргей КІЕНЯ, "БМ"**

